Opłata pocztowa opłacona ryczałtem.

Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 14. Вільня, 10 чэрвеня 1927 году. Год I.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| | | |
|---|---|---|
| **Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:** Wilno (Вільня), Ціхая вул. 4, (альбо Міцкевіча 15) кв. 20. Тэлефон № 1207 | **Падпісная цана:** На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | **Цана абвестак:** За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2—65, за 1/4—35, за 1/8—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Самаурады і сялянства.

Самаўрады могуць адыграць вялізарную ролю ў гаспадарчым і культурным адраджэньні нашага заняпалага краю. Павялічэньне прадукцыі сельскае гаспадаркі, справа асьветы, адбудовы зьнішчаных вайною районаў, мэдыцынская і аграмамічная дапамога жыхарству, — ўсё гэта ў значнай меры залежыць ад працы самаўрадаў, ад іх ініцыятывы і энэргіі. Зусім зразумелая рэч, што калі ў самаўрадзе будуць сядзець людзі разумныя, людзі здольныя і суменныя, людзі, якія карыстаюцца пашанаю і аўторытэтам жыхарства, дык справа культурнага адраджэньня і гаспадарчага ўпарадкаваньня жыцьця гэтае акругі будзе ісьці шпаркім крокам наперад. Добры самаўрад усім прынясе дабро і наадварот. Самаўрад, які будзе складацца з людзей прыпадковых, няздольных, спэкулянтаў і г. д., або яшчэ таго горай з п'яніц і гарлапанаў, дык нічога добрага зрабіць ня зможа і змарнуе той народны грош, якім будзе распараджацца. Дык вось абавязкам кожнага сьвядомага грамадзяніна зьяўляецца старацца, каб у самаўрады папалі лепшыя і здольныя людзі.

А гэтага можна дабіцца толькі тады, калі кожны сьвядомы грамадзянін ня толькі будзе цікавіцца выбарамі ў самаўрады, але і будзе прымаць актыўны удзел у выбарах і будзе старацца правясьці ў самаўрады адпаведных людзей.

З вёскі мы часта-густа адтрымліваем корэспондэнцыі аб тым, як дрэнна працавалі і працуюць нашыя валасныя і павятовыя самаўрады, як яны падчас крыўдзяць беларуса-селяніна і падаткамі і фурманкамі і іншымі павіннасьцямі, а абшарнікам робяць розныя палёгкі. Пішуць аб п'янстве, пратэкцыянізьме, растратах. Гэтакіх гутарак шмат чуваць усюды і адгэтуль неразумныя сяляне робяць толькі вывад, што самаўрады — гэта установы панскія і туды няварта ісьці і выбіраць сваіх людзей. Няма для беларуса-селяніна большае бяды, чымся такія думкі, бо самаўрад гэта зусім ня панская і не абшарніцкая установа, а установа дэмакратычная агульна-грамадзкая. Выбіраць у самаўрад мае права кожны селянін, а дзеля таго, што сялян больш, як паноў, дык і самаўрад зусім лёгка зрабіць сялянскім, зрабіць такім, які ў першую чаргу дбаў-бы аб тым, каб палегчыць жыцьцё селяніна і палепшыць яго дабрабыт.

Але для гэтага трэба, каб усе сяляне прыймалі чынны удзел у выбарах і перад кожным выбарным сходам згаварыліся аб кандыдатах і праводзілі аднагалосна сваіх людзей.

Зусім правідлова адзін з нашых корэспон-

дэнтаў З. Зарак піша нам, „ўсё гора ў тым, што мы, беларусы-хлебаробы, не стараемся выбіраць у самаўрады сваіх сялян-беларусаў, якія баранілі-б нашыя інтарэсы, а не выбіраем, дзякуючы зайздрасьці „што калі ня выбралі мяне, то няхай і ён ня будзе, а лепш пан". Прыводзім вельмі красамоўны прыклад выбараў у вусенскім абводзе браслаўскае воласьці і павету. Выбары гэтыя адбыліся 26 траўня гэтага году. Усяго мела права выбіраць у гэтым абводзе 700 грамадзян, а зьявілася на выбары толькі 51 чалавек, якія выбралі 20 выбаршчыкаў.

З гэтых 51, зьявіўшыхся на сход, былі ўсе паны-абшарнікі і толькі вельмі нязначны лік сялян, дык і зусім зразумелая рэч, што выбаршчыкі, якія будуць у воласьці выбіраць валасны самаўрад, выбяруць такі самаўрад, які аб сялянах будзе менш дбаць, а будзе больш палёгкаў даваць абшарнікам.

Хто вінават будзе, калі браслаўскі самаўрад будзе дрэнна працаваць?

Бязумоўна той, хто дрэнна арганізаваў выбары і самі сяляне, каторыя не зьявіліся на выбары.

Дык вось, каб потым не наракаць на самаўрады і іх працу, — сяляне беларусы мусяць абудзіцца ад пасыўнасьці, ня слухаць розных дурняў і гарлапанаў і прыняць найдзейнейшы удзел у выбарах, якія павінны адбыцца ў хуткім часе ў шмат якіх воласьцях, дзе выбараў ня было тры гады.

Загад ураду аб роспуску такіх валасных радаў ужо апублікованы. Задачаю ўсяго сьвядомага беларускага грамадзянства зьяўляецца цяпер добра падрыхтавацца да гэтых выбараў і правясьці ў самаўрады новых, разумных, сьвядомых людзей.

## МАЙ ПРЫЙШОЎ.

Май прыйшоў, вясна ў разгары.
Ўсё праснулась, на папары
Цягне сіўка стары плуг.
Рэжа сталь зямліцу-маці,
Рэжа борзда, што-ж чакаці?
Скіба ложыцца на скібу;
Барана раскрыша глыбу,
Будзе мягка для зярня.
Конь ідзе зусім ляніва;
Доўгі шнур, хоць вузка ніва
Поўна сувалак, дзярня.
Аратай рукой мазольнай
Плуг кіруе й песьняй вольнай
Ўторыць ветрыку у тон.
Песьня льецца у прасторы,
Ён забыўся ўжо аб горы,
Згінуў недзе змора - сон.
Хоць і цяжка, хоць і нудна,
Хоць і час паўзе марудна
Йдзе ён з сіўкам нараўне.
Выйдзе сейбіт ў чыста поле,
На ўзаранае раздольле,
Размахнецца і сяўне.
Зярнё ўзойдзе, будзе хлеба
Для усіх, колькі патрэба,
Сьвет пракорміць селянін.
Рыцар плуга, скромны шэры,
Яго-ж моцы, няма меры —
Ўсіх трымае ён адзін!

*Вітэблянін.*

---

## Выбарны закон.

Выбары ў валасныя самаўрады будуць адбывацца паводле распараджэньня Гэнэральнага Камісара Ўсходніх Земляў „аб часовай выбарнай ардынацыі да валасных сабраньняў і радаў" (Dz. Urz. Zarz. Cywiln. Ziem Wsch. Nr. 7 z dn. 5 lipca 1919 r. pozycja 45).

### Сыстэма выбараў.

Паводле памянёнага закону, выбары ёсьць двухступенныя. Сялянская маса беспасрэдна выбірае па абводах паказаны лік выбаршчыкаў—сяброў валаснога выбарнага Сабраньня, а тыя ўжо, на валасным Сабраньні, выбіраюць радных. Выбары ёсьць роўныя, тайныя, прапарцыянальныя і адбываюцца па сьпісках кандыдатаў.

### Хто мае права выбіраць і быць выбраным?

Выбіраць маюць права ўсе сталыя жыхары бяз розьніцы полу данай воласьці, якія жывуць у яе межах ня менш як 10 месяцаў і маюць 21 год. Пры гэтым асобы, маючыя ў данай воласьці нярухомасьці, іх бліжэйшая радня, усе дамаўнікі і зямельная служба, маюць права выбіраць хоць-бы самі і ня жылі ў межах данага выбарнага абводу. Усе выбаршчыкі павінны быць грамадзянамі Польскае Дзяржавы (§ 9). Быць выбранымі могуць усе тыя, хто: 1) мае права выбіраць і 2) мае скончаных 25 гадоў (§ 12).

### Хто ня мае выбарных правоў?

Ня маюць права выбіраць і быць выбранымі: 1) мясцовы павятовы стараста, 2) ўрадоўцы службы бясьпечнасьці (паліцыя), 3) асобы служачыя на чыннай ваеннай службе (§ 10).

Пазбаўлены правоў выбарных: 1) асобы, пазбаўленыя альбо агранічаныя ў правох па суду; 2) асобы, проці якіх вядзецца судовае сьледзтва за праступленьні, за якія пагражае пазбаўленьне або агранічэньне ў правох (§ 11).

### Органы, кіруючыя выбарамі.

Беспасрэдна кіруе выбарамі павятовы стараста. Ен вызначае Валасны Выбарны Камітэт у складзе Старшыні і ад 3 да 5 сяброў, пры чым у старшыні

## Якіх людзей выбіраць трэба ў Самаўрады.

У вачох часткі нашага сялянства—самаўрады гэта установы, якія толькі і ведаюць адно — накладаць падаткі, а нічога карыснага для сялянства не рабіць і дзеля гэтага найлепш было-б зусім скасаваць іх. Ведама, хто так гавора, гавора вялікае глупства. Праўда цяперашнія законы аб самаўрадах маюць шмат недахопаў, праўда і тое, што цяперашнія самаўрады, накладаючы вялікія падаткі, вельмі мала робяць у галіне паляпшэньня сельскай гаспадаркі і падняцьця культурнай роўні сялянскага жыцьця, праўда, што самаўрады ня маюць дагэтуль патрэбнай для іх нармальнага разьвіцьця незалежнасьці і залішне залежаць ад волі адміністрацыйнай улады, але калі пачнём дашукваца запраўднай прычыны таго, што самаўрады зьяўляюцца ў іншых месцах установамі, вельмі мала популярнымі ў вачох нашага сялянства, то прыйдзем да перакананьня, што прычына гэнае непапулярнасьці ляжыць не ўва ўсіх гэтых вышэй пералічаных недахопах самаўрадаў, а ў тым, што кіраўніцтва самаўрадамі папала ў рукі людзей, якія альбо зусім ня руліцца аб грамадзкіх справах і, папаўшы у гмінныя рады, маюць на мэце адно толькі — набіць сабе кішані і проста абкрадаюць грамаду, альбо ў рукі людзей, якія грошы самаўрадаў кідаюць на справы нічога супольнага ня маючыя з інтарэсамі нашага сялянства. Там, дзе сялянства наша, якое становіць галоўную масу выбаршчыкаў у самаўрады, патрапіла выбраць адпаведных людзей, там самаўрады, ня гледзячы на ўсе свае недахопы, патрапілі за кароткі час свайго існаваньня зрабіць шмат добра і зрабіць сабе прыхільнасьць сялянства.

І вось, грамадзяне, уся справа знача ў тым, каб у самаўрады выбраць адпаведных людзей. Якіх-жа людзей трэба выбіраць у валасныя самаўрады? Каб адказаць на гэнае пытаньне, трэба перш за усё даць адказ на пытаньне: якая праца чакае сяброў валаснoе рады? Толькі адтрымаўшы адказ на яго, можна адказаць зусім ясна і на першае пытаньне, бо ўсе добра ведаюць, што для кожнай работы патрэбны іншы чалавек: шыць боты патрапіць найлепшы шавец, вясьці сельскую гаспадарку — аграном; лячыць людзей — доктар і г. д. Якая-ж работа чакае сяброў валаснoе рады?

Па думцы закону валасныя самаўрады зьяўляюцца установамі, якія павінны рупіцца аб арганізацыі культурнага і гаспадарскага жыцьця валасьці. Сябры валаснoе рады павінны на сходах вырашаць пытаньне аб упраўленьні маемасьцяй валасьці, справы накладаньня падаткаў і расходу іх. Да валаснoе рады належыць справа будовы і папраўкі дарог, мастоў, дапамога ў разьвіцьці земляробства, гандлю і коопэрацыі, да яе належаць: утрыманьне больніц і аптэк, апека над жабракамі і бедакамі, нагляд за прасьветай і г. далей, адным словам няма той галіны культурнага і гаспадарскага жыцьця валасьці, якое-б не абымалі валасныя рады. Вось для якое працы павінны быць падрыхтованы кандыдаты ў валасныя самаўрады. З гэтага відаць, што кандыдатамі ў валасныя рады павінны быць: 1) людзі бясспрэчна чэсныя. Тыя, да рук якіх прыліпалі грамадзкія грошы, тыя, хто ў грамадзкай працы бачыць толькі дойную карову з якой можна даіць залатоўкі ў свой кішэнь — не павінны мець месца ў валаснoй радзе; 2) людзі цьвярозыя. П'яніца за чарку гарэлкі ня то сваіх суседзяў і іх грошы, а і душу прадасьць—ім таксама бязумоўна не павінна быць месца ў валаснoй радзе; 3) людзі моцна ўросшыя ў сваю зямельку. Прыблуды, якія сягоньня жывуць тут, а заўтра там, ніколі ня будуць добрымі працаўнікамі ў валаснoй радзе. Добра і карысна будзе працаваць у самаўрадзе толькі старажыл, моцна зьвязаны са сваёю старонкай. Ён будзе працаваць шчыра і ахвотна, бо калі сам ня здолее скарыстаць з вынікаў свае працы, то ведае, што скарыстаюць з яе яго дзеткі і ўну-

---

ці сябры можа быць вызначаны войт і іншыя ўрадоўцы валасьці (§ 8), акрэсьлівае лік сяброў валаснога выбарнага Камітэту ад 100 да 150 асобаў (§ 5), вызначае дзень выбараў (§ 13), спраўджае правільнасьць падзелу мандатаў (§ 33), разглядае і рашае ў першай інстанцыі аб важнасьці выбараў (§ 41), рашае спрэчкі проці выбараў (§ 42).

### Валасны Выбарны Камітэт.

Вызначаны Старастай валасны выбарны Камітэт: дзеліць валасьць на абводы галасаваньня (§ 6), вызначае абводавы выбарны Камітэт (§ 7), акрэсьлівае лік асобаў, якія павінны быць выбраны па абводах (§ 8), аб'яўляе аб дні выбараў, месцы і гадзіне іх адбыцьця (§ 13), вядзе пратакол выбараў (§ 14), спраўджае, ці паданыя ў сьпісках кандыдаты на радных адпавядаюць трэбаваньням закону і прымае або адкідвае сьпісак (§ 24), дастаўляе выбаршчыкам выбарныя карткі (§ 25), спраўджае лік і важнасьць выбарных купэртаў і картак (§ 30), разьдзяляе па сьпісках мандаты на радных (§ 33), спраўджае — ці выбраныя на радных асобы адпавядаюць трэбаваньням закону і калі ёсьць нейкія заганы, выкрэсьлівае кандыдата, а на яго месца ўваходзе наступны (§ 37).

### Старшыня Валаснога Выбарнага Камітэту.

Старшыня валаснога выбарнага Камітэту: вызначае дзень і месца выбараў у абводах; у працягу 15 дзён ад дня выбараў паведамляе выбраных у абводах сяброў валаснога выбарнага Сабраньня аб дні і гадзіне Сабраньня і высылае гэтым сябром не пазьней 10 дзён пісьменнае аб гэтым паведамленьне (§ 20), кіруе выбарамі і выясьняе на Сабраньні прынцыпы прапарцыянальнага галасаваньня (§ 21), прымае ад выбаршчыка і ўкідвае ў выбарную урну купэрту з картачкай галасаваньня (§ 26), спраўджае лік выбарных купэртаў (§ 28), адказвае за цэласьць усяго выбарнага дзелаводзтва (§ 29), аб'яўляе, спосабам прынятым у данай мясцовасьці, рэзультаты галасаваньня і выбараў (§ 28).

### Абводавы выбарны Камітэт і Старшыня яго.

Вызначаны валасным выбарным Камітэтам абводавы выбарны Камітэт складаецца з старшыні і 2-х

кі. Ён не захоча якім нібудзь брыдкім чынам апаскудзіць сваё імя паміж людзей, з якімі яму век жыць прыдзецца. А прыблуда, прыткнуўшыся да працы і напаганіўшы—накрыецца хвастом і пойдзе ў іншае месца. Прыблудам не павінна быць месца ў валасной радзе; 4) людзі, якія заракамандавалі сябе, як добрыя арганізатары і працаўнікі ў розных грамадзкіх установах. Тыя, хто толькі крычыць, шуміць, усё і ўсіх паганіць, а сам да ніякай працы прыткнуцца ня можа, альбо, прыткнуўшыся да працы, нічога карыснага не зрабіў, а толькі напутаў — гэта людзі нясур'ёзныя, ім верыць нельга. Не на абяцанках, а на рэзультатах прошлай працы найлепш можна пазнаць чалавека; 5) людзі разумныя, сьветлыя, добра знаючыя мясцовае жыцьцё, якіх прывыкла шанаваць вёска. Гэта інтэлігэнты альбо выйшаўшыя з сялянскае хаты, адтрымаўшыя адукацыю, альбо гаспадары земляробы, якім прырода дала талент без вялікай кніжнай мудрасьці бачыць і разумець праявы грамадскага жыцьця; 6) сяляне павінны выбіраць у валасныя рады людзей, якія-б дбалі аб іх сялянскіх справах, гэта знача, што людзі гэныя павінны дбаць, каб падаткі, якія зьбірае самаўрад, раскладаліся раўнамерна і ня крыўдзілі сялянства і каб сабраныя грошы ішлі на справы, патрэбныя сялянам.

## Яшчэ аб віленскай сучаснасьці.

Беларускі народ у сучасны момэнт, гэта сіла, з якой хочаш-ня хочаш мусяць лічыцца ўсе тыя, каму паручана разьвязваць дзяржаўныя справы. Пэўне-ж, як адзінка яшчэ нез'арганізованая, ён не выяўляе тае сілы, якую выявіць можа і якую ў бліжэйшай ці далейшай будучыні выявіць. Усё-ж такі сёньня нацыянальная сьведамасьць глыбока захована ў душы беларуса, яна пашыраецца. І няма сілы, якая гэтаму, можна сказаць стыхійнаму, адвак лёгічнаму разьвіцьцю нацыянальнае беларускае сьведамасьці стала-б на перашкодзе. Гісторыя нас вучыць, што ўсюды на цэлым сьвеце спробы забіцьця нацыянальных рухаў ня мелі ўдачы; раней ці пазьней нацыянальныя рухі узмацняліся і народы паднявольныя здабывалі ўсе належныя ім правы. Але каб народ, вось іменна, здабыў сабе роўнае становішча з другімі ў сэнсе свабоднага і вольнага жыцьця і каб мог быць сам сабе гаспадаром, трэба, каб быў ён сьвядомы таго, што ён запраўды хоча і павінен сам аб сабе пастанаўляць.

Згэнуль лёгічны вывад.

Беларуская інтэлігэнцыя, якая зьяўляецца духовым правадыром народу, павінна перш за ўсё палажыць націск на працу над шырэньнем беларускае нацыянальнае сьведамасьці. Перш за ўсё працаваць над з'арганізаваньнем народу, як адзінкі сьведамае свае нацыянальнасьці, народу, які захацеў-бы жыць сваім уласным жыцьцём. І калі так, дык ясная рэч, што ў гэтай працы хапіла-б месца для ўсіх шчырых беларусаў бяз розьніцы пераканаўньняў.

Так было 20—25 год таму назад. Таму вынікі працы першых барацьбітаў беларускага адраджэньня так багаты. Там былі розьніцы ў асабістых пераканаўньнях, мо' на'т розьніцы ў поглядзе на спосаб працы, аднак усе яны сходзіліся, гадзіліся і працавалі над адраджэньнем свайго народу. Праца над шырэньнем нацыянальнае сведамасьці іх лучыла. Гледзячы сёньня на тое, што дзеецца сярод інтэлігэнцкіх беларускіх кругоў, гледзячы на адносіны аднаго палітычнага кірунку да другога, на адносіны часта проста поўныя подласьці, сум агартае душу. Бо-ж ясная рэч, што разьбіцьцё беларускае інтэлігэнцыі на рад групаў, моцна зваёўваючых адна

---

сяброў (§ 7). Выбарамі кіруе Старшыня; пры чым выбары адбываюцца спосабамі, устаноўленымі звычаем у данай мясцовасьці (§ 13). Абводавы Камітэт вядзе пратакол выбараў які падпісвае Старшыня і сябры; Старшыня перасылае 2 пасьведчаныя копіі гэтага пратаколу ў валасны выбарны Камітэт (§ 14). Старшыня пасьля аканчаньня выбараў неадкладна аб'яўляе аб іх рэзультатах (§ 15).

### Як адбываюцца выбары.

На валасным выбарным Сабраньні Старшыня валаснога выбарнага Камітэту, або спэцыяльны дэлегат Старасты дае падрабязныя выясьненьні аб прынцыпах прапарцыянальных выбараў і заклікае прысутных сяброў складаць сьпіскі кандыдатаў, з якой мэтай робіцца перарыў (§ 21). Сябры Сабраньня ў часе перарыву складаюць сьпіскі (можна мець гатовыя), якія павінны быць падпісаны ня менш як 5-ма сябрамі. Кожны сьпісак павінен мець у $1^1/_2$ разу больш кандыдатаў, чым іх павінна быць выбрана. Сьпіскі з меншым лікам кандыдатаў будуць прызнаны няважнымі (§ 22). На кожным сьпіску, побач з прозьвішчам і імем кандыдата, павінны быць азначаны: яго гады, чым займаецца і месца, дзе жыве. Кожнае прозьвішча нумаруецца пачарзе (1, 2, 3 і г. д.) (§ 23). У выпадку, калі пасьля праверкі сьпіску валасны выбарны Камітэт адкіне яго, група сяброў, падпісаўшых адкінуты сьпісак, мае права падаць новы (§ 24). Пасьля прыёму сьпіскаў приступаюць да галасаваньня. Прысутным выдаюцца карткі галасаваньня з пячаткай ці іншым урадовым знакам. На картцы гэтай выбаршчык піша цыфрай або слоўна № сьпіску, за кандыдатаў якога падае голас (§ 25). Пасьля напісаньня № сьпіску на сваёй картцы, выбаршчык падыходзіць да стала, за якім урадуе валасны выбарны Камітэт і называе сваё імя і прозьвішча. Пасьля спраўджаньня асабістасьці і што ён упісаны у сьпісак сяброў валаснога Сабраньня, выбаршчык адтрымоўвае купэрту з пячаткай ці іншым урадовым знакам. Выбаршчык укладае ў купэрту сваю выбарную карту, заклейвае купэрту і аддае яе Старшыні, які ўкідае купэрту ў выбарную урну. Адначасна адзін з сяброў Камітэту робіць нататку на сьпіску сяброў Сабраньня, што такі й такі сябра падаў ужо свой голас (§ 27). Ад мамэнту па-

адну, а што за гэтым ідзе і падзел сярод народу, мілы толькі адным—гэта ворагам беларускае справы. Гэтую нездаровую грызьню тлумачыць трэба стараньнем зьдзяваньвя для сваіх партыяў і праграмаў староньнікаў сярод сялянства.

Але дарогі, якімі да гэтага ідуць і мэтоды, якімі карыстаюцца ў сваіх стараньвях, сьведчаць аб тым, што якраз у некаторых з гэтых людзей прытупілася думка і заглохла грамадзкае сумленьне. На першы плян яны ставяць асабістыя спрэчкі і інтарэсы. Па-за гэтым нічога для іх ня істнуе. І толькі аднае малое здавалася-б рэчы ў іх няма, рэчы, якая сьведчыць аб іх этычным роўві, няма адвагі прызнацца, што не адны яны рэпрэзэнтуюць беларускі народ, што часта народ іх і знаць ня хоча. Даволі прыглядзецца да беларускай прэсы. Там ня знойдзеш палемікі на ідэолёгічным падкладзе, а толькі хлусьвю і выліваньне бруду. У апошнія часы адна з беларускіх газэт, з вялікімі прэтэнсіямі ў гэтым кірунку пабіла рэкорд. Подласьць, а інакш гэтакага спосабу палемікі назваць ня можна—гэта аружжа ў руках слабых. Аб гэтым забываць ня трэба.

Наша часопісь паставіла сабе за мэту адсоўвацца ад усякае неэтычнае палемікі з нашымі палітычнымі праціўнікамі, не дзеля таго, што мы ня маем аргумэнтаў, ясна баронячых нашую пазыцыю, нашыя мэты, але мы ня хочам палемізаваць дзеля таго, што нашыя опонэнты зводзяць палеміку да перакручваньня нашых думак і выліваньня брудаў. Мы іменна стараемся і будзем старацца аздаравіць жыцьцё беларускае, прапаведваць адзінства народу, і ня толькі прапаведваць, але і працаваць у гэтым кірунку. Мы зусім шчыра і бяз ніякіх ахварбовак і фразаў кажам, што трэба перш за ўсё працаваць над сабой, трэба узмацоўвацца нацыянальна і культурна. Мы цяпер зьяўляемся народам, сілы якога разьбіты. Трэба злучыць гэтыя сілы, арганізаваць іх. Вось задача, якую трэба вырашыць. Напісалі аб нас, што казаць аб гэтым—гэта значыць забіваць веру ў народзе. Іншая рэч, што пісалі аб нас так тыя, хто зацікаўлены ў грызьні, сярод беларускае інтэлігэнцыі. Пісалі гэта ў газэце б. „Грамады“, каторая зьяўляецца галоўным вінавайцам разбіцьця беларускіх сілаў і першым начынальнікам братняе грызьні. Бо што такое ідэолёгія „Грамады“, калі не бязьвер'е ўва ўласныя сілы? Бо што казала „Грамада“, якя тварыла настроі? Найгалоўнейшым і пануючым настроем — гэта было нездаровае чаканьне вялікіх зьменаў. Меў нехта прыйсьці, як той чараўнік, і ўсё благое зьмяніць на найлепшае. А ці-ж была творчая праца і вера ўва ўласныя сілы? Ці-ж быў высілак дзеля шырэньня глыбокае сьведамасьці нацыянальнае? Не — гэтага ня было. Была гарачка, а што дала яна для нацыянальнага беларускага руху?

А трэба наадварот: будзіць веру ў народзе ў яго жыцьцяздольнасьць, у яго сілы. Ніхто нам не паможа, толькі мы самі. І дзеля гэтага, дарэмны ўсялякія чаканьні зьменаў і г. д. І пакуль ня будзе веры ўва ўласныя сілы, датуль мы будзем слабымі. І вось усе тыя, якія грызуцца, забываюць аб гэтым. Мы пераконаны, што недалёкі той час, калі народ змусіць усіх „вялікіх палітыканаў“ замоўкнуць — і перастаць грызьціся. Бо ў народзе ёсьць здаровы розум і ён інстынктыўна пайдзе там, дзе будзе праўда.

*Інтэлігэнт.*

---

чатку выбараў у памешкальні, дзе яны адбываюцца, ніхто з пастароньніх дапушчаны быць ня можа.

### Прычына уневажненьня голасу.

Прызнаюцца няважнымі: 1) карткі галасаваньня, уложаныя да іншай, без урадовага знаку, купэрты, альбо ў купэрту з нейкім другім знакам; 2) пустыя карткі (бяз № сьпіску); 3) карткі, ужытыя інакшым, чым прадбачаны ў гэтым законе, спосабам (напр. падпісаныя, або з нейкім знакам, іншым як урадовы), 4) кожная картка, калі разам з ёю ў купэрце акажацца штоколечы іншае (§ 31). Аб няважнасьці выбарных картак пастанаўляе аканчальна валасны выбарны Камітэт (§ 32).

### Калі выбары не адбываюцца.

Калі прадстаўлены толькі адзін сьпісак кандыдатаў, дык выбары не адбываюцца, а проста валасны Камітэт аб'яўляе аб выбары ў радныя чарговых кандыдатаў па прадстаўленаму сьпіску. У такім выпадку, калі-б паданы быў недастатачны лік кандыдатаў, то нехапаючых радных вызначае Ваявода (§ 36).

### Няважнасьць выбараў.

Калі будзе устаноўлена, што пры выбарах быў дапушчаны абман, подкуп, або гвалт, якія нарушаюць роўнасьць і тайнасьць выбараў, дык выбары прызнаюцца няважнымі (§ 40).

### Абжалаваньне выбараў.

Кожны сябра валаснога выбарнага Камітэту мае права ў працягу 2 тыдняў ад дня выбараў, на аснове § 40 закону, абжалаваць выбары (§ 41). Жалабы на пісьме падаюцца на імя Павятовага Старасты і складаюцца валасному выбарнаму Камітэту, які жалабу з сваімі паясьненьнямі ў працягу 3 дзён перасылае ў Староства. У працягу 7 дзён ад часу адтрыманьня павінна быць пастанова Старасты. Пастанова Старасты таксама ў працягу 2 тыдняў з дня яе аб'яўкі жалабшчыку можа быць абжалавана Ваяводзе. Пастановы Ваяводы аканчальныя і далейшаму абжалаваньню не падлягаюць (§ 42).

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

### Аб культуры лёну.

Мясцовы земляроб, асабліва ў паветах з урадлівейшаю зямлёю, здаўна прывык лічыць культуру лёну прычынай хіба што найважнейшага грашавога даходу ў сваёй гаспадарцы. Тое, што пасьля вайны цэны на ляннае валакно утрымліваюцца на высокім роўні ў адношаньні да іншых земляробскіх прадуктаў, спрыяла заўсёднаму павялічваньню засеву лёну і мела той рэзультат, што нават і большыя гаспадаркі пачалі цікавіцца гадоўляй лёну. Аднак-жа расшырэньне культуры лёну знаходзіць натуральныя межы ў магчымасьці перароблкі ляннае саломы ручным спосабам на валакно. Кожны вясковец можа засеяць гэтулькі лёну, колькі ўвосень з сваею дружынаю здолае вымачыць або вырасіць, а падчас зімы высушыць, сьцёрці і вытрапаць.

Труднасьць выпаўненьня гэтых дзейнасьцяў зьяўляецца прычынаю таго, што ў ваколіцах з большаю плянтацыяй, земляроб не даводзіць вырабу лёну да тае чыстаты, якой-бы праўдзівы гандаль вымагаў, а прадае на рынку гэтак званы „сыры лён“ або „цёрты“ з паловаю больш-менш валакна. Гэтак званы „цёрты“ або вычышчаны на церніцы лён прадукуецца толькі ў ваколіцах з меншымі разьмерамі плянтацыяў. Ясная рэч, што павялічэньне ў нас гадоўлі лёну вельмі пажаданае па прычыне цяперашняга патрабаваньня лёну на сусьветных рынках, а значыцца трэ' было-б падумаць аб стварэньні фабрыкаў, дзе можна было-б цёрці і трапаць лён. Для земляробскіх сфэраў ляннае пытаньне ледзь што й ня існуе, бо гандаль лёнам знаходзіцца пераважна ў жыдоўскіх руках, пазбаўлены контакту з земляробскімі кругамі. Я хацеў-бы паказаць спосабы, якія земляроб павінен ужываць пры вырабе лёну, каб вытварыць лянную салому ў добрым гатунку.

Ляннае валакно тым цаньнейшае, чым яно далікатнейшае і мацнейшае. Даўжыня валакна вельмі важная для земляроба з увагі на ўборку каліваў, перш за ўсё для таго, хто перарабляе лянную салому, дзеля таго, што карэньні і галаўкі саломы, якія пры пераробцы робяцца адкідамі, зьяўляюцца больш-менш роўнымі, незалежна ад даўжыні каліва, дзеля гэтага кожны сантымэтр павялічанае даўжыні ідзе выключна на дабро павялічэньня працэнтовасьці валакна, бо даўжыня каліваў пры ручной пераробцы дае большую колькасьць лёну. Важным свойствам ляннае пражы ёсьць таксама і аднолькавасьць валокнаў у сэнсе таўшчыні і даўжыні. Пры засеве лёну трэба зьвяртаць увагу на тое, каб ляннае насеньне было адборнае, ачышчанае ня толькі ад сьметнякоў, але і ад худых зярнят, каб расьліны выраста́лі роўнамерна і калівы былі аднолькавае даўжыні, бо салома, ў якой знаходзяцца тонкія тоўстыя калівы, зьмяшаныя разам з кароткімі калівамі, мае вельмі малую тэхнічную вартасьць, дзеля таго, што пры мачэньні ці рашэньні тонкія калівы патрабуюць даўжэйшага часу, як тоўстыя, ў рэзультаце чаго, пры захаваньні сярэдняга часу, часьць каліваў будзе перамочанай, а другая часьць — недамочанаю. Гэткія валокны пры трапаньні і часаньні даюць масу адходу ў постаці клоча, а рэшта лёну — благога гатунку. Ня гледзячы на ўжываньне адборнага насеньня, лён бывае неаднолькавым тады, калі абыход яго быў няроўным.

Калі пасьля пасеву пайдзе дождж, а затым пачнецца суш, дых паверхня зямлі пакрыецца скарынкаю, дзеля чаго абыход будзе затрудненым і адбудзецца паступова, і часьць насеньня наогул не абыходзіць. Тады трэба зямлю крыху перабаранаваць лёгкаю бараною. Неаднолькавая

---

# Успаміны з Пэрсіі.

(*Гл. № 13 „Б.Д.“*).

Дагэтуль я апісваў толькі прыроду Пэрсіі і нічога амаль не сказаў аб самых Пэрсах, так што не адзін чытач зусім слушна скажа:

— Ты, дзядзька Пранук, байкі баеш, пішаш аб Пэрсіі, а дагэтуль яшчэ не расказаў нам, што за народ гэтыя Пэрсы, як жывуць яны, як выглядаюць іх кабеты?

Выбачайце, дарагенькія чытачы: мой грэх! Але каб адтрымаць Ваша выбачэньне зараз раскажу аб іх, бо запраўды цікаўны гэта народ і шмат у чым непадобны Пэрсы да нашых славянскіх народаў. Галоўную масу пэрсідзкага народу па паходжаньню свайму можна падзяліць на дзьве часткі: Іранцаў, патомкаў старадаўных племяў, засяляючых абшары цяперашняе Пэрсідзкае дзяржавы, і народаў Тюркскага племя, прыйшоўшых у Пэрсію пазьней. Гэныя два тыпы, твораць аснаўную масу Пэрсідзкага народу, паміж каторай украплены ўсюды невялічкімі гурткамі жыды, арияне, грэкі, арабы і іншыя ўсходнія народы.

Іранцы з выгляду свайго падобны да Эуропэйцаў. Нос у іх роўны, бровы цягнуцца прыгожым шнурочкам, тонкія губы маюць правідловы выраз, падбародак прыгожа закруглены і лёгка выступае ўперад. Чорныя, поўныя агню, вочы абведзены доўгімі чорнымі расьніцамі. Колер твару белы з загарам. Валасы на галаве густыя, чорныя. Дзяўчаты іхнія таксама вельмі прыгожыя і гутарка, якая ідзе ў палякоў аб вачох пэрсіянак — ня байка. Праўда, прыезнаму чалавеку рэдка калі бывае здарэньне ўбачыць твар пэрсідзкай жанчыны, бо звычай не дазваляе жанчынам паказваць яго мужчынам. Паглядаць на яго маюць права толькі бацька, браты ды мужык. Дзеля гэтага, выходзячы на вуліцу, яны прыкрываюцца вялізарнай хусткай, якая атуляе галаву, твар і ўсё амаль цела пэрсіянкі. Каб магла глядзець, дык у хустачцы процi вачэй зроблены прарэз, у які ўстаўлена густая сетка. Пэрсіянкі, відаць, ваюць з гэным звычаем, бо ў Тэгэране, сталіцы Пэрсіі, дзе ўсялякая наагул эманцыпацыя лягчэй пракладае сабе шлях, я бачыў пэрсіянак, прыкрыўшых свой твар толькі лёгкім невялічкім шматком нейкага шалю, які, прыкрываючы твар і част-

даўжыня лёну часта выклікаецца ўжываньнем на засеў насеньня з розных палеткаў. Насеньне, набытае з нязнанае крыніцы, зьяўляецца гэткаю мешанінаю. Найлепш набываць пасеўнае насеньне, якое паходзіць з аднаго вядомага палетку. Даўжыня каліва, а затым і валакна залежыць ад гатунку пасеўнага насеньня. Трэба ўжываць гэтак званы „даўгунец“ і браць насеньне толькі з доўгае саломы. Самы выгляд насеньня на вока яшчэ не даказвае яго дабрыні, бо, напр., сьцяповы лён, прадукованы толькі на зярняты, а не на салому, мае буйнейшае насеньне, чымся прадукованы, галоўным чынам, на валакно.

У нас неабходна зьвярнуць увагу на ўжываньне для засеву толькі гатунковага насеньня, прадукованага спэцыяльнаю насеннаю гаспадаркаю, бо йначай ня можа быць і мовы аб вытвары валакна добрага гатунку. Даўжыня ляннае саломы залежыць ня толькі ад ужываньня гатунковага насеньня, а таксама і ад гатунку зямлі, на якой лён сеецца. Перш за ўсё лён патрабуе вільгаці для таго ці іншага свайго росту, дык на сухім грунце лёну сеяць ня трэба, а гадаваць яго на нізкіх і вільготных грунтох. Далікатнасьць ляннага валакна залежыць ад гатунку лёну, ад гушчыні засеву і ад спосабу гнаеньня зямлі. Гэтак напр., галяндзкі лён, які цьвіце сінім цьветам, мае значна далікатнейшае валакно, чымся той, што цьвіце белымі краскамі. У Польшчы няма чыстых расаў лёну, а толькі мешаніна тыпаў, па якой прычыне нашыя ляны маюць у сабе рознае валакно і нізкі гатунак. Ведама, што чым глыбейшы засеў, тым танчэйшае каліва і тым далікатнейшае валакно. Але нельга з гушчынёй заходзіць вельмі далёка, а трэба датарноўвацца да грунту. У Віленшчыне, пры слабым узмацняньні грунту, сеецца значна радчэй і гэта дае той рэзультат, што расьліна мае даволі корму, каб вырабіць свой рост і свае тканінкі, даючы сярэднядалікатнае і сільнае валакно.

Вышэй кажучы, што і гнаеньне мае ўплыў на далікатнасьць валакна, я меў на думцы гнаі, якія шыбка і непасрэдна дзейнічаюць на рост лёну, як салетра і хлеўны гной, хаця гэтых гнаёў ня трэба класьці беспасрэдна пад лён, бо валакно робіцца тоўстым, шорсткім і крохкім, лепш калі-б грунт быў угноены пажыўнымі элементамі, а асабліва паташом, якога лён патрабуе значна болей, як каласавыя расьліны. Калі пад лён ужываем штучныя паташовыя і азотныя гнаі, дык якраз могуць быць яны ўжыванымі ў форме азотніку альбо і серчыстага аману, якія ня дзейнічаюць гвалтоўна. Пры дапасаваньні ў нас лепшае культуры можна было-б павялічыць гушчыню засеву лёну (з 80 кгр. да 120 кг.) і праз гэта лёгка падвоіць прадукцыю лёну. У пладазьменах лён найлепей удаецца пасьля канюшынаў альбо ўгораў, бо тады знаходзіцца ў грунтох патрэбная колькасьць азоту, які лагодна дзеець на расьліну. Сіла валакна залежна ад гатунку грунту і раньняга засеву. А позны засеў — гэта найважнейшая прычына благіх гатункаў лёну ў Віленшчыне. Пасьля 15 траўня наагул лён сеяцца не павінен. Позны засеў нядобры тым, што расьліна пачынае шыбка расьці падчас самае сьпякоты і праз недахоп вільгаці валакно будзе слабое.

*Т. В.*

## Пара арганізаваць коопэрацыйны збыт яек.

Найлепшы прыклад узорнае арганізацыі збыту яек, паводле коопэрацыйных асноваў, стварылі дацкія земляробы. Пасьля нешчасьлівай вайны з Няямеччынай датчане ўсю сваю натугу скіравалі на павялічэньне зямельнае прадукцыі і арганізацыю збыту яек на коопэрацыйных асновах. Праўду кажуць, што дабрабыт і культура датчан цесна зьвязаны з земляробскаю коопэрацыяю ў гэтым краі.

Маленькая (ў параўнаньні з Польскаю Рэспублікаю) Данія — гэта земляробскі край, які ня ведае

---

ку стану да пояса, рэшту пэрсіянкі рабіў даступнаю воку. Але і гэны шматок шалю, відаць, перашкаджаў ім, бо некалькі разоў, праходзячы праз вялізарны пляц, спатыканыя кабеты, аглядзеўшыся добра, ці няма дзе блізка пэрса, адкідалі з твару заслону і ўсьмяхаліся да мяне. Вось тады я праканаўся, што пэрсіянкі запраўды вельмі прыгожыя і гутарка аб іх вачох ня байка. Кажуць толькі, што хараство ня доўга трымаецца Пэрсіянак. Трынацацёх-чатырнацацёх гадоў яны ўжо выходзяць замуж і пасьля хутка старэюць, так што трыццацёх гадоў выглядаюць зусім старухамі.

Гэтак выглядаюць іранцы і іранкі. Выгляд прышэльцаў — народаў Тюрскага племя, тыпічнымі прадстаўнікамі каторых зьяўляецца засяляючае Азэрбайджан племя Курдаў—ужо зусім іншы. Твар у іх брыдкі, шырокі, відаць у ім некая мешаніна татаршчыны. Нос курды маюць таўсты, губы таксама, заместа невялічкіх, густых чорных вусоў, якія так прыгожа аздабляюць губы іранцаў, у курдаў растуць вусы рэдкія, доўгія. Вельмі часта курды носяць бараду.

Кабеты іх таксама брыдкія, іх бачыць можна часта, бо курдзянкі — дочкі пастушага горнага племя, якое прывыкла жыць вольна ў горах, — нават прад чужынцамі не хаваюць свайго твару.

Туткі я апісаў тыповых прадстаўнікоў гэных двух плямяў. Ведама, жывучы разам мшат вякоў, тыпы гэныя перакрыжаваліся паміж сабою, аднак і цяперака у шмат якіх месцах яны захавалі тып свой у поўнай чыстасьці.

Як выглядае вопратка Пэрсаў? Трудна адказаць на гэпае пытаньне. Яна вельмі зьмяняецца, залежна ад месца і ад багацьця пэрсаў. Вопратка бяднейшых пэрсаў — кароткія шырокія порткі, сягаючыя ніжэй каленаў і шырокі, дасягаючы да каленаў каптан, падпяразаны паясом з тканіны. На галаве шапка з тоўстага цьвёрдага вайлака, кшталтам падобная да папоўскай камілаўкі, верх якой закруглены. Ногі босыя, або абутыя ў туфлі, зробленыя з некай тоўстай белай тканіны. Падошва ў іх не са скуры, а таксама зроблена спэцыяльным спосабам з палатнянае тканіны. Туфлі гэныя, званыя пэрсамі „гэвэ“ вельмі лёгкія і хадзіць у іх надта добра. Багацейшыя Пэрсы носяць вопратку іншую. Заместа каптані-

розьніцы паміж служачым і сынам найбагацейшага земляроба, але знае добрага і працавітага грамадзяніна, дзякуючы сваёй культуры, зьяўляецца краем важным паміж найбольшымі дзяржавамі сьвету.

Дацкі земляроб дбае, галоўным чынам, аб тым, каб дабыць якнайбольш пладоў з свае зямлі, каб карова давала яму якнайбольш малака, а курыцца яек і г. д., а дзеля гэтага можа быць спакойным, што на пладох яго працы віхто яго ня скрыўдзіць, таму што пры закупках прадметаў прадукцыі, а таксама і пры збыце яе ён карыстаецца услугамі ўласных коопэрацыйных арганізацыяў, у якіх ён зьяўляецца сябром, пайшчыкам, а часта і кіраўніком.

### Датчанін гэта земляроб-коопэратар.

Трудна іначай азначыць дацкага земляроба, калі думаеш аб гэтым дастойным народзе. 80 з лішкаю процантаў прадукцыі ў гэтым краі абнята дзеяльнасьцю коопэрацыі.

Як-жаж хацелася-б, любячы свой народ, каб і ў нас надышоў той момэнт, калі з земляробавай працы ня будзе карыстаць пасярэднік, як гэта ёсьць сяго нььня!

Вось-жа ў коопэрацыйнай арганізацыі, ў якой аб'яднана ня толькі скромная сума грашавых паёў, а і праца аб'яднаных, іхняя суменнасьць, ўзаемная вера адзін да аднаго, крыецца вялікая моц, якая падыме нашую вёску на высокую ступень культуры і дабрабыту. Чым хутчэй вёска ў Польшчы з Варшаўшчыны, Паморра, нашага краю і г. д. пачуецца адною вялікаю дружынаю, што працуе ў коопэрацыйных арганізацыях, зьяднаных у вялікім саюзе гэтых коопэратываў, тым шыбчэй зацьвіце дабрабыт і культура на вёсцы.

Хай наша вясковая гаспадыня пачне дробную на выгляд, аднак-жа важную працу, маючы на мэце рацыянальную гадоўлю курэй і дастаўку яек да коопэратываў, падобна да таго, як сягоньня малака, і яна прыспорыць даход сваёй гаспадарцы, а тым самым і дзяржаве, так, як гэта робяць вясковыя гаспадыні ў Даніі. Уласная і разумная праца на гаспадарчым полі зробіць нас дужым народам, які паслужыць узорам для іншых краёў.

Калі на гадоўлю курэй не зьвяртаюць такой, якая патрэбна, ўвагі, а значыцца ня дбаюць аб кармленьні, аб рацыянальным устройстве катухоў, дык гэткая гадоўля, „гадоўля так сабе“, карысьці ўласьніку даць ня можа.

Вось-жа на ўзор іншых краёў і наш земляроб, а асабліва дробны, павінен зьвярнуць большую ўвагу на гадоўлю курэй. Навукі аб гадоўлі курэй трэба вучыцца, чытаць кнігі і спэцыяльныя газэты, пасылаць сыноў і дачок на спэцыяльныя курсы гадоўлі птушак, а набытую веду трэба датарноўваць да практычнага жыцьця.

Але гэта была-б палавінная праца, калі-б адначасна мы запомнілі аб даходзе з курэй, якога можна дасягнуць, галоўным чынам, праз умелы перавод яек на грошы.

У нас, пакуль яйко дайдзе ад гадавальніка курэй да спажыўца, дык яно праходзіць праз некалькі рук, а ласьне: перш за усё яйкі купляе на вёсцы „вандроўны зьбіральнік“, гэты прадае іх маламестачковаму гандляру, той ізноў купцу, які скупляе тавар скрынкамі і адсылае іх гуртоўніку, а той прадае яйкі вагонамі заграніцу, альбо скрынкамі дэталічным крамам, якія ўжо прадаюць яйкі спажыўцом на штукі.

Гэтае пасярэдніцтва пэўна-ж адбываецца не без

---

ка — яны апрануты ў доўгі да кален аднабортны сурдут, пашыты кшталтам польскай чамаркі са стаячым каўняром. Сурдут зашпілены ад гары да нізу гапкамі і кручкамі. Порткі доўгія, вузкія, дасягаюць самай стапы. На галаве яны носяць шапачку гэткага самага фасону, як і бяднейшыя, толькі з лепшага матар'ялу і больш фарсістай работы. Верх шапкі — плоскі. Гэтак апранутымі я бачыў і пэрсідзкіх ханаў і іх службу і лёкаёў у важных рэстаранах у Тэгэране, гэтак апрануты пэрсідзкія чыноўнікі і багацейшыя гаражане.

Першы дзіўны звычай пэрсаў, які зьвярнуў маю ўвагу, гэта хварбаваньне пальцаў на руцэ, а таксама барады і вусоў. Можа падумаеце, дарагія чытачы, што робяць яны гэта з тэй самай мэтай, з якой нашыя дон-жуаны хварбуюць сабе вусы і валасы на галаве, каб хварбай пакрыць сваю сівізну і выглядаць маладымі? Божа, барані! Бароды свае пэрсы хварбуюць на колер, які нічога супольнага ня мае з натуральным колерам іх валос. Найбольш модным і фарсістым зьяўляецца колер чырвона-жоўты або чырвона-лілёвы. Вымажа сабе такі франт бараду, вусы, пальцы і далоні рук да кісьці дый ходзіць, горда паглядаючы вокам, быццам хацеў сказаць: „гляньце, які я прыгожы“.

Можа пэпэрсідзку гэта і прыгожа, але на мяне франты гэныя рабілі ўражаньне цыркавых клёунаў, якія малююць сабе твар на розныя колеры, каб сьмяшыць публіку. У Тэгэране я неяк менш бачыў гэных „пуджалаў“ і колькі прыпамінаю сабе, іранцы менш, альбо зусім ня трымаюцца гэнага звычаю. Ведама, ў культурных цэнтрах Пэрсіі, ў гарадох, эўропэйская вопратка і звычаі знаходзяць сабе ўсё больш прыхільнікаў, так што там вы ўбачыце Пэрсаў, апранутых зусім паэўропэйску, але гэта толькі паасобныя адзінкі.

Аб жыцьці пэрсідзкіх жанчын, ведаю мала, бо хатняе жыцьцё Пэрсаў, зусім недаступна воку чужынца, на вуліцы пэрсіянку ўбачыш толькі закутанай з галавы да ног хусткай, так што з-за яе ня відаць зусім чалавека і ў гэных сваіх дзіўных вопратках больш яны падобны да нейкіх чорных ценяў, прыйшоўшых з таго сьвету, чымся да жывых істотаў.

**Дзядзька Пранук.**

*(Працяг будзе).*

зацікаўленьня, але за адпаведны зыск коштам земляроба.

Яйчарні - коопэратывы зьбіраюць яйкі, зьліжаюць прадуцэнта са спажыўцом, час збору карацейшы, як у пасярэдніцкім гандлі, затым коопэратывы дастаўляюць сьвежыя яйкі на рынкі збыту і ведам-ж праз гэта могуць іх найкарысьней перавясьці на грошы.

Дасюль мы на першабытным яечным гандлі трацім вялікія сумы, прынамсі 20 проц. вартасьці яек. Калі будзем мець яечныя коопэратывы, дык ня страцім нічога на кожнай прадажы.

Калі земляроб адтрымае належную цану за яйкі, дык птушкі яму пачнуць аплачвацца, а рэзультатам гэтага будзе тое, што не на адным падворку дробнага земляроба, замест 10-х, будзе 100 альбо і болей курэй, з якіх земляроб будзе зьбіраць добрыя грошы на гаспадарскія і хатнія патрэбы. Арганізацыю збыту яек, абапёртую на коопэрацыйных прынцыпах, можам правясьці пры помачы тых, што ўжо істнуюць, землеробскіх коопэратываў, а ў першую чаргу малочных коопэратываў, якія ўжо ёсьць і лік якіх бязумоўна будзе павялічвацца. Прафэсіянальна - землеробскія гурткі, гурткі гаспадыняў, а таксама й грамадка-гаспадарчыя дзеячы, павінны супольна заняцца справаю коопэрацыйнага збыту яек якнайэнэргічней.

Даўно ўжо пара пачаць арганізацыю коопэрацыйнага збыту яек!

*А. Зах.*

### Трэба сеяць віку.

Пры звычайнай вясковай землеробскай гаспадарцы ў нас на Беларусі часта-густа, як прыдзе час гараць папар, сяляне пачынаюць сумаваць аб тым, што ня будзе месца куды ганяць каровы на пашу, бо пожань у гэтым полі як і няма, а ўсё зямля ворная,— будзе сёлета голад для скаціны, — кажуць селяне. І праўда, хто ня бачыў, як у гэту пару, калі ўжо ўзораны папар, бадзяецца жывёла па межах ды парытых сьвіньнямі пожнях, а то ўзойдзе на ральлю, стаіць, як быццам пад'еўшы. Гэткая нікчэмная паша гаспадару наганяець многа думак, як палепшыць у гэту пару для жывёлы пашу. Найгорш гэта гаспадару ўёўдзіцца тады, калі кароўка на'т і добрая, а не даець малака.

Болей рупныя гаспадары, а найчасьцей гаспадыні, ідуць з мяшкамі ў панскі лес, у балота, зьбіраць траву, ці гдзе на нівах асот, каб накарміць сваю жывёлу. Добра-ж, калі кароўка адна, а калі дзьве ці тры, дык гаспадар ці гаспадыня ўжо гэткім чынам накарміць сваю жывёлу ня дасьць рады. Касіць пожню для гэтае мэты шкада, бо нястача будзе сена ўзімку. Дык ня дзіва, што трэба шукаць травы ў панскім лесе, ці дзе-колечы ў іншым месцы.

Сяляне хутаршчыкі ды яшчэ каторыя кіруюцца шматпольлем гэткай прыкрасьці з пашай у сваю пару ня маюць. Пры вядзеньні шматпольнай гаспадаркі, гаспадар абавязкова засяваець частку свайго папару вікай, каторая служыць кормам яго жывёле ў тую пару, калі ўзорваецца папар.

Віка, як ведама, ёсьць найлепшым кормам для ўсякай жывёлы, як: каровы, коні і авечкі, а на'т сьвіньні, каторыя ў зялёным відзе зьядаюць віку дужа смачна, а за гэта сеяць яе ў нашых вясковых гаспадарках таксама неабходна; лічаць яе неабходнай расьлінай нашыя культурнікі - шматпольцы. Стоіць толькі гаспадару кавалачак зямлі засеяць вікай, скажам 1/8 дзесяціны, то ўжо для аднэй - дзьвюх каровак досыць будзе корму на цэлы крытычны момэнт, калі будзе ўзораны папар.

Каб падасьпела віка вырасьці да галоднай пары, дык трэба яе пасеяць пасьля 15 траўня на ст. ст. якнайхутчэй. Трэба зазначыць, што віку на корм сеяць ня позна на'т па ўборцы жыта. Заараўшы іржышча сеюць віку, каторая пасьпяваець яшчэ вырасьці аж да цьвіценьня. Само сабой зразумела, што такую віку скошваюць і высушваюць для патрэбы зімовай, бо ўжо ў гэту пару падкормліваць жывёлу ня прыходзіцца па прычыне ўлепшаньня пашы.

Гэткім чынам, кожнаму гаспадару як хутаршчыку, так і вяскоўцу неабходна, на выпадак галадоўкі жывёлы ад узоранага папару - пашы, засеяць хоць на пробу кавалачак зямлі вікай. Калі гаспадар гэта зробіць сёлета, то на лета будзе для гэткае мэты лічыць сяўбу вікі неабходнай стацьцёй, бо прыбыткам малака ў кароў прыкормкай у галодную пару вікай, аплачваюцца ўсе труды, зямля і насеньне і ня будзе гаспадар меці няпрыемнасьці глядзець на галодную жывёліну.

*Янка Тарыкоў.*

## Гаспадарчыя парады.

### Адказы на пытаньні.

I.

**Дрэва на чужой зямлі.**

Пытаньне: На супольным выгане расьлі дрэвы, якія высекла калёнія. Хто адказвае?

Адказ: За высечаныя дрэвы адказваюць асабіста тыя, хто высек. Значыцца, трэба устанавіць асобы вінаватых, сабраць доказы і падаць у суд. Жаліцца могуць усе ўласьнікі выгану разам, альбо іхнія поўнамоцнікі.

II.

**Пазычка ў Зямельным Банку.**

Пытаньне: На тое, каб купіць зямлі, я зрабіў пазычку. Дзе можна дастаць крэдыт на яе сплату?

Адказ: На аснове распараджэньня Міністра Зямельных Рэформаў 20 чэрвеня 1925 г., выданага ў паразуменьні з Міністрам Скарбу, а таксама і з Міністрам Земляробства аб статуце Дзяржаўнага Зямельнага Банку, кожны, хто патрабуе крэдыту на куплю зямлі або на сплату цяжкаватых для зямельных гаспадарак грашавых абавязаньняў, можа яго адтрымаць пасьля даказаньня сваіх патрэбаў. З гэтай мэтай трэба падаць прашэньне ў Банк з далучэньнем гіпотэчнае выпіскі,

доказаў даўгоў і г. д. Істнуюць спэцыяльныя анкеты, якія выдаюць у Банку і ў якіх ёсьць падробныя інформацыі. Найлепшая рэч — асабіста рабіць гэтыя справы ў Банку.

III.

Пытаньне: Які ёсьць найнавейшы закон аб ліквідацыі сэрвітутаў?

Адказ: Аб гэтым выйшла распараджэньне Прэзыдэнта 1 лютага 1927 году аб скасаваньні сэрвітутаў (Dz. Ust. Nr. 10/74). Паводле 54 арт., паступаньне ў справах, пачатых перад гэтым распараджэньнем, калі да таго часу апрацованыя ацэначна-пасярэдніцкімі камісіямі прымусовыя проекты ня былі даручаны старонам, мае быць рэгулёвана на аснове таго-ж самага распараджэньня. У першым выпадку — паводлуг ранейшых правілаў.

IV.

Хворыя авечкі.

Пытаньне: Маю авечкі, якія ў мяне худзеюць, вочы ў іх гнояцца, іншых зьменаў не заўважана. Разбор дохлых штук паказаў, што ўнутраныя органы ў іх здаровыя; аўчарнік даволі нізкі. Карміў авечкі аўсом, канюшынаю, саломай і бульбаю. Як вылячыць хваробу?

Адказ: Вельмі часта прычынаю падобных зьявішчаў бываюць гэтак званыя матыліцы, г. знач. апівошы (паразыты), якія знаходзяцца ў печанях. Калі разбор дохлых штук роблены быў не вэтэрынарным лекарам, дык трэба да яго паслаць цэлыя печані дзеля бліжэйшага азначэньня. У выпадку пацьверджаньня матыліцаў, трэба датарнаваць выпрабаванае, вельмі добрае лякарства, званае дыстолем (distol), якое можна дастаць у прадстаўніка ляборâторыі (адрэс: Warszawa ul. Chełmska 13, p. M. Bemski). Калі матыліцаў няма, дык тады трэба даваць авечкам лізаць соль, што зьяўляецца неабходным, а таксама зьвярнуць увагу на дабрыню корму й вады. Вочы, якія моцна гнояцца, прамываць штодня рошчынай борнага квасу, бяручы 1 лыжку яго на шклянку вады, якую трэба астудзіць.

## Куток для мацярок.

ДОКТАР РАВІЧ.

### З кухні для дзяцей.

1) Як зрабіць кашку на малаку? Бяром паўтары лыжачкі манны і столькі-ж цукру, на тры чэцьверці шклянкі або 12 сталовых лыжак малака. Заварваем раней малако з цукрам; на кіпячае малако сыплем памалу манну і, мяшаючы ўвесь час, варым 15 — 20 мінут, пакуль ня зробіцца густая аднародная каша.

Для малодшых дзяцей або ў пачатку дакармляньня, нарэшце для дзяцей, якія вяртаюцца да здароўя пасьля ляксы (ганячкі), ўжываем кашку на вадзе з малаком: замест 12 сталовых лыжак малака, бяром тады 8 лыжак малака і 4 лыжкі вады, а колькасьць манных круп і цукру застаецца тая самая, што і ў вышэйпаданым правіле.

Апрача манны, можна варыць на малаку і іншыя крупы, як аўсянка, ячменныя, кракаўскія, а таксама й рыж на малаку і дробную тапёку, што дасканальна разварваецца і якую лёгка можна набыць у вялікім месьце.

Усе гэтыя кашкі лепш падходзяць для дзяцей, як дарагія парашкі (фосфатына, Нэстле); калі-ж абавязкова хочам даваць гэтыя парашкі, дык трэба іх варыць на малаку з вадою, а не на аднэй толькі вадзе.

2) Сухарыкі. Таксама вельмі добрыя і сухарыкі на малаку: звычайную булку, альбо булку малочную кроім на дробныя кавалкі, дадаём крыху масла і сушым у печы, аж пакуль крыху не зарумяняцца (залацісты колер). Гэтыя сухія кавалачкі таўчом і расьціраем на дробны парашок. Бяром 10 сталовых лыжак малака і паўтары лыжачкі цукру і заварваем, а да кіпячага малака дасыпаем паўтары лыжачкі мукі з сухарыкаў, увесь час мяшаючы, пакуль ня створыцца аднародная маса; гэта ня цягнецца больш як 10 мінут.

### Корм для дзяцей.

(З сокаў, гароднін і фруктаў).

Дзіцяці, якое корміцца грудзьмі, ўжо з 10-га тыдня жыцьця добра дадаваць сок з гароднін альбо фруктаў.

Прыгатаўляем яго гэтак: моркву альбо буракі, добра ачышчаныя і абмытыя, расьціраем сырымі на тарцы, а пасьля выціскаем з іх сок праз чыстую полачку. Да гэтага соку дадаём крыху цукру, каб дзіця піло яго ахвятней і падаём дзіцяці цераз гадзіну ці дзьве пасьля накармленьня.

Спачатку трэба дадаваць соку толькі паўлыжачкі на раз, 2 або 3 разы на дзень; пасьля некалькіх дзён можна ўжо даваць па лыжачцы, а як дзіця прывыкне, дык даходзім да некалькіх лыжачак на дзень: дзіцяці ад паўгода можна ўжо даваць 3 разы па 2 лыжачкі, ў канцы году нават па 8 або 10 лыжачак на дзень; гэтае колькасьці нельга ўжо павялічваць.

Апрача морквы і буракоў, можна ўжываць для выціскаьня соку: сырыя памідоры, бручку або рэпу.

Ящчэ ахвятней дзеці п'юць сок з фруктаў: памаранцаў, яблыкаў, пазёмак, малінаў, а нават і цытрынаў па засалоджаньні.

Сокаў з гароднін і фруктаў нельга варыць, бо тут якраз ідзе аб сыры, нязьменены корм расьліны; можна іх нагрэць крыху, а старэйшым дзецям даваць і без награваньня.

(„Kultura“).

## Корэспондэнцыі.

### Ці ня мог-бы наш магістрат паставіць на рынку вагі?

Места Баранавічы.

Прачытаўшы ў газэце „Бел. Дзень“, што рэдакцыя просіць надсылаць весткі аб жыцьці нашаг

вёскі, хачу скарыстаць з гэтай магчымасьці і падаць адзін факт, які можа прычыніцца да аздараўленьня адносін на нашым Баранавіцкім рынку.

Гэтак перад сьвятам выбраўся я ў Баранавічы на рынак з цялём, каб, ведама, купіць сяго-таго к сьвяту. Сусед мой таксама прывёз вяпрука; а важылі мы гэтага вяпрука, выяжджаючы з дому, на маёй вазе, нядаўна купленай з баранавіцкага сындыкату, і заважыў вяпрук 9 п. 18 ф., гэтак мой сусед запісаў сабе на картачцы, каб не забыцца, і ўсё здаецца ў парадку—не ашукаюць.

Прыехаўшы ў Баранавічы на быдлячы рынак, сусед пашоў даведацца цаны і вось, аблічылі мы, што за вяпрука павінна быць, сколькі ўжо ня помню, бо і справа тут не аб грошах, а аб вазе. Пры аблічэньні адкінулі мы для пэўнасьці 18 ф., што магло ўбыць у дарозе, ну і ўжо, як ведама, 1 пуд скідкі, значыцца 8 пуд. чыстай вагі. Знашоўся купец, старгаваліся і павязьлі мы разам гэтага вяпрука важыць, бо цяля я ўжо прадаў, а сусед прасіў яму памагчы. На рынку-ж у Баранавічах вагі няма, як-бы гэта належала, паехалі к жыду на двор, дык на той вазе ледзь 8 пуд. пацягнула. Дык ці-ж гэта магчыма, каб вяпрук у дарозе за некалькі гадзін схудзеў аж на 1 п. 18 ф.? Але дзе там! сальнік той, што старгаваў, і слухаць ня хоча пра нашу вагу. Ну, сусед само сабою не згадзіўся, ізноў паехалі мы на рынак, ажно там ужо па ўсім рынку вядома, што вяпрук майго суседа ня 9 п. 18 ф., а 8 п., і то скупых, важыць. Стаяў гэтак мой сусед да самага вечара, а што грошы нагвалт былі патрэбны, то і мусіў аддаць так, як сальнікі згаварыліся, трацячы на розьніцы між вясковай вагай, хоць купленай у сындыкаце, і гарадзкой 1 п. 18 ф. ды і да таго 1 пуд скідкі. Вась адзін з прыкладаў адносін з нашага баранавіцкага рынку, а ці-ж гэта толькі адзін?

Няужо-ж на гэта няма рады?

Гэты факт зусім выразна сьцьвярджае адсутнасьць усялякага дазору і апекі з боку Баранавіцкага магістрату на баранавіцкім рынку, а ўсё-ж такі магістрат бярэ ўсялякія аплаты ад сялян ня толькі за ўезд на рынак, але нават і ў горад. Дык ці-ж толькі на гэтым канчаюцца абавязкі баранавіцкага магістрату, што пільнаваць, каб селянін дарма ў горад ня ўехаў? Можна здаецца, было-б паставіць на рынку вагу, як гэта ёсьць усюды ў добрых людзей, ды паставіць пры ёй кантроль, каб гандляры людзей не ашуквалі, ды і вага-ж бы сама сябе аплаціла хіба. Дык чаго-ж глядзіць Баранавіцкі магістрат, чаго пільнуе, ці ня першага чысла? Гдзе тыя радныя, што ў прошлым годзе так пёрліся ў магістрат, што аж чупрыны трашчэлі?

*з Баранавіч.*

# Палітычны агляд.

Варацьба Англіі з Саветамі пасьля разрыву дыплёматычных і гандлёвых зносін уступае ў новы востры этап. Зьяўляецца на арэну Эўропы пагроза новае вайны. Кожная дзяржава, кожная нацыя стараецца з'арыентавацца ў новай сытуацыі і заняць сваю пазыцыю на выпадак далейшага абвастрэньня канфлікту.

Урад Нямеччыны а'бявіў нэйтралітэт, Савецкія агенты з Лёндану пераехалі часова ў Нямеччыну, а апеку над пакіненымі савецкімі грамадзянамі ў Англіі ўзяло на сябе нямецкае пасольства.

ФРАНЦЫЯ вуснамі свайго пасла ў Маскве заявіла, што ў англа-савецкім канфлікце яна будзе трымаць нэйтралітэт. Бязумоўна, што Францыя пастараецца, каб за гэты нэйтралітэт Саветы ёй дорага заплацілі і, ў першую чаргу, каб прызналі ўсе даўгі.

Такую самую пазыцыю, як і Францыя, займаець Польшча. Як паведамляюць польскія газэты, Міністар Заграпічных Справаў заявіў Савецкаму паслу ў Варшаве Войкаву, што польскі ўрад будзе захоўваць нэйтралітэт у англа-савецкім канфлікце. Але адначасна з гэтым міністар Залескі зусім выразна паведаміў Войкава аб тым, што Польшча патрабуе выкананьня некаторых пунктаў Рыскае умовы, перш за ўсё выплаты абяцаных 30.000.000 золатам.

Але найбольшае значэньне мае пазыцыя Злучаных Штатаў Амэрыкі. З прамовы прэзыдэнта Куліджа і амэрыканскага пасла ў Парыжы відаць, што Амэрыка падтрымліваець Англію процiў Саветаў.

ЧЭХАСЛАВАКІЯ, якая вядзэць з Савецтамі гандлёвыя зносіны, але ня мае нармальных дыплёматычных зносін, пад уплывам англа-савецкага канфлікту і надалей устрымліваецца ад прызнаньня Саветаў дэ-юрэ.

ЛІТВА, як паведамляюць з Лёндану, зьбіраецца разарваць дыплёматычныя зносіны з Саветамі і робіць гэта бязумоўна пад уплывам ангельскага ўраду. Расстрэл гэнэрала Клешчынскага ў Коўне, якога абвінавачвалі ў шпіёнстве на карысьць Саветаў, вострыя рэпрэсіі супроць камуністых і нават соцыялістых сьведчаць, што сучасны літоўскі ўрад займае ў адносінах да Саветаў варожую пазыцыю.

Што-ж робяць бальшавікі? Пачаўшы шалёную агітацыю ў Расеі супроць Англіі, яны стараюцца замацаваць сваю ўладу на акраінах: у Беларусі, на Украіне, у Туркестане, куды скіравалі найлепшыя свае сілы.

Аднаčасна з гэтым робяць ваенную падрыхтоўку на польскай і румынскай граніцы. Старшыня рэвалюцыйнае ваеннае Рады і ваенны камісар Варашылаў аб'яжджае граніцу, каб спраўдзіць баявую гатовасьць чырвонае арміі. У сваіх прамовах Варашылаў кажа, што Англія рыхтуе вайну і што гэтая вайна немінуча, а дзеля гэтага трэба быць гатовымі.

На Усходзе, ў Кітаі бальшавікі зьмянілі сваю тактыку. Адмовіўшыся ад думкі зрабіць там камуністычную рэвалюцыю, яны стараюцца ўсімі сіламі памірыцца з кітайскімі правымі нацыяналістымі (Чан-Кай-Шэк), якіх яшчэ ўчора аб'явілі здраднікамі.

Чан-Кай-Шэку даравалі нават тое, што ён нядаўна расстраляў шмат кітайскіх бальшавікоў у Шанхаі і Кантоне. Апошнія весткі пішуць аб тым, што і Чан-Кай-Шэк і гэн. Фэнг ужо наступаюць адным фронтам процiў Чан-Со-Ліна і паўночнае недабітае арміі.

Наогул палітычная сытуацыя, ў зьвязку з разрывам ангельска-савецкіх дыплёматычных зносін, значна пагоршылася і цэлы сьвет стаіць сягоньня прад небясьпекай новае вайны.

Калі-б такая вайна пачалася, то ў першую чаргу гэта была-б вайна паміж Англіі з Саветамі. Тэатрам вайны найпраўдападобней быў-бы Кітай, куды Англія пасылаець значныя ваенныя сілы і флёт. Аднаčасна з гэтым Англія пачала-б блёкаду Чорнага Мора, Архангельска, Ленінграду і іншых прыморскіх савецкіх пунктаў. Газэты паведамляюць, што ангельскі флёт зьбіраецца ў хуткім часе нанясьці візыту ў Рэвэль (Эстонія), што будзе насіць выразны характар збройнае дэмонстрацыі, бо Рэвэль знаходзіцца вельмі блізка ад Кранштадту.

*Аглядчык.*

# Апошнія навіны.

### Забойства савецкага пасла Войкава.

7 чэрвеня раніцай вучань расейскае гімназіі ў Вільві Барыс Кавэрда забіў савецкага пасла ў Варшаве Войкава, двума стрэламі. Мотывы забойства няведамыя. Кавэрда некалькі год працаваў у Паўлюкевічавай газэце „Беларускае Слова“.

### Узрыў парахавых складаў у Кракаве.

6 чэрвеня наступіў у Тонях пад Кракавам узрыў парахавых складаў. Сіла ўзрыву была так вялікая, што людзі думалі, быццам гэта землятрасеньне. У касьцёлах якраз адбывалася набажэнства. Амаль што ўсе шыбы ў вокнах выляцелі, а ў некаторых выпадках і цэлыя рамы. У суседніх вёсках шмат забудаваньняў зусім зьнішчана. Агулам ёсьць 480 асобаў раненых. Страты каля 3 мільёнаў злотых. Урад прыйшоў з падмогай пацярпеўшым.

### Пералёт з Амэрыкі да Эўропы аэроплянам.

10.V. два францускія лятуны выляцелі з Парыжа ў Нью-Іорк, але па дарозе загінулі і дасюль іх не знайшлі, мабыць згінулі ў акіяне.

Гэта не адстрашыла амэрыканскіх лятуноў, і так амэрыканскі лятун Ліндбэрг выляцеў з Амэрыкі 20.V і прыляцеў 21.V. ў Парыж. Сьледам за ім праз некалькі дзён выляцеў амэрыканскі лятун Чэмбэрлен, які з Нью-Іорку прыляцеў у Бэрлін. Ляцелі яны прыблізна 27 — 30 гадзін.

Вось якія здабычы зроблены ў галіне тэхнікі!

---

## Роспуск гарадзкіх Радаў.

На аснове распараджэньня Міністэрства Унутраных Справаў, ваяводзкія ўлады распусьцілі Гарадзкія Рады местаў: Новых-Сьвянцян, Старых-Сьвянцян, Ракава і Ашмяны.

Тэрмін пачатку выбарчае акцыі вызначаны на 30 траўня с. г., а выбары да гэтых Радаў адбудуцца 29 гэтага чэрвеня.

Да часу выбараў новых радаў справы будуць вясьці магістраты.

---

## Пісьмо у Рэдакцыю.

Ад гуртка Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры ў Перховічах, Баранавіцкага пав. адтрымалі мы гэткае пісьмо:

„Вельмі просім зьмясьціць гэтых некалькі слоў:

У сувязі з праванацыйнай карэспондэнцыяй „Сумнага“ ў № 16 „Нашай праўды“, у імя праўды протэстуем, што гр. Цяўлоўскі (абмылкова было зьмешчана Цаўлобскі) накідаецца каму-кольвечы. У Люшневе грам. Цяўлоўскі 5.III.27 году быў запрошаны праз нас прачытаць лекцыі на тэму „Гісторыя Беларускага Слова“, „Значэньне коопэрацыі і „Алькаголь“. Прачытаны лекцыі грам. Цяўлоўскім былі вельмі добра, доказам чаго бурныя воплескі, якімі нагрsucccc прысутныя лектара. Вечарына кончылася а 3 гадз. ўночы бяз жадных прыкрых інцыдэнтаў і пакінула па сабе вялікае ўражэньне.

З прычыны добрай, яснай і дасканальнай лекцыі па коопэрацыі, якую прачытаў грам. Цяўлоўскі, усе грамадзяне пад уплывам лекцыі схамянуліся, зразумелі карысьць коопэрацыі і залажылі коопэратыў. Карэспондэнцыю „Сумнага“ ў № 16 „Нашай Праўды“ лічым бруднай правакацыяй — нязгоднай з праўдай.

У довад нашай прыхільнасьці і ўдзячнасьці да грам. Цяўлоўскага ўжо даўно злажылі яму падзяку на пісьме.

З пашанаю

Ян Дэшкоўскі — старшыня

Сябры { Якім Кміта, Адам Курганскі

Прысутныя { Евсей Зенько, Апанас Ворабей

1.VI. 1927 г.

---

### Ад рэдакцыі.

У газэце „Наша Праўда“ № 13 — 18 траўня ў аддзеле „Хроніка“ было надрукована, што быццам сябра рэдакцыі „Б. Д.“ эс-эр Мамонька вёў нейкія перагаворы з шэфам бясьпечнасьці віленскага ваяводзтва п. Кіртіклісам аб дазволе п. Ластоўскаму прыехаць у Польшчу з тым, каб ён, Ластоўскі, ўвайшоў у склад рэдакцыйнае колегіі нашае часопісі. Гэтым рэдакцыя „Б. Д.“ даводзіць да агульнага ведама, што ў „Беларускім Дні“ ніколі не падымалася пытаньне аб утвараньні гэткае колегіі, а грам. Мамонька ніколі не ўваходзіў у склад рэдакцыі нашае часопісі і дзеля гэтага надрукованая ў „Нашай Праўдзе“ „рэвэляцыя“ ня мае пад сабою ніякага грунту.

---

## Паштовая скрынка.

Куняўскаму. Патрэба пераходу на хутары дзеля палепшаньня сялянскага быту шырока абгаварвалася ў „Бел. Дні“. Нас цешыць, што гэная справа цікавіць сялян.

Прысутнаму. Карэспондэнцыя Ваша — ня цікаўная і незразумелая. Можа напішаце ясьней — тады маглі-б зьмясьціць.

Гр. Яйсон. Газэту ад 1 — 10 вышлем. Газэта Вам высылалася акуратна. Дамагайцеся на пошце.

А. Кулька. Падайце прозьвішча судзьдзі, пастараемся выкарыстаць, калі факты запраўдныя і Вы возьмеце на сябе за іх адказнасьць.

Дзяўчына. За корэспондэнцыю дзякуем — пастараемся выкарыстаць.

Сусед. Корэспондэнцыю пастараемся выкарыстаць. Пішэце да нас аб усім.

Сьвірэпа. Справай, якую нам прыслалі, мы зацікавіліся, адказ будзе дадзены пісьмом.

Рэдактар-выдавец Ф. УМЯСТОЎСКІ

Выд. Т-ва „Родон“ Друк. „Рах“, вул. Сьв. Ігната 5.